# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 10 (69) Кастрычнік 2012 г.


## Парлямэнцкія выбары на Віцебшчыне

*У Віцебскай вобласьці падчас кампаніі па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага скліканьня было ўтворана 14 выбарчых акругаў (№№17-30; Докшыцкая акруга №22 памяняла назву: падчас мінулых парлямэнцкіях выбараў яна называлася Глыбоцкай акругай №22). Непасрэдна ў Віцебску было 4 акругі (№№17,18,19,20).*

### Асаблівасьць выбарчай кампаніі на Віцебшчыне

На выбары ў парлямэнт пайшла досыць вялікая колькасьць прадстаўнікоў мясцовай улады: старшыня *Шаркоўшчынскага райвыканкаму* **Мечыслаў Морхат**, старшыня *Лепельскага райвыканкаму* **Пётар Шыкшнян**, старшыня *Аршанскага райвыканкаму* **Ўладзімер Дзедушкін**, Старшыня *Полацкага гарсавету* **Натальля Гуйвік**, старшыня *Аршанскага гарсавету* **Людміла Дабрыніна**. Усе яны прызнаныя пераможцамі на выбарах.




### Інфармацыя аб выбарах у мясцовых дзяржаўных СМІ

Мясцовыя друкаваныя СМІ з самага пачатку праводзілі прыхаваную датэрміновую агітацыю за кандыдатаў — кіраўнікоў прадпрыемстваў і прадстаўнікоў улады. Асабліва часта такія прыклады сустракаліся ў рэгіянальным друку ( *"Лепельскі край"* - Лепель, *"Новая газета"* - Наваполацак, *"Голас Сеньненшчыны"* - Сянно).

Паводле назіальніка ад БХК **Анатоля Родзіка**, зь першых дзён выбарчай кампаніі абласныя газэты *"Віцебскі рабочы"*, *"Народнае слова"* і гарадзкая газэта *"Віцьбічы"* пэрыядычна згадвалі толькі асобных кандыдатаў — тых, каго людзі называюць "праўладнымі", і якія нарэшце, усе без выключэньня, трапілі ў парлямэнт.

Кандыдаты — прадстаўнікі грамадзкіх аб'яднаньняў і апазыцыйных партыяў у дзяржаўным друку ня згадваліся наогул.

### Утварэньне акруговых выбарчых камісіяў

Было заяўлена 243 кандыдатуры на 162 вакантныя месцы ў 14-ці акруговых камісіях вобласьці. 61 чалавеку адмовілі.

У склад акруговых выбарчых камісіяў былі вылучаныя прадстаўнікі ад *партыі левых "Справядлівы сьвет"* і *Партыі БНФ*, яшчэ двое прыхільнікаў **Мікалая Статкевіча** — праз збор подпісаў.

Трапілі двое прадстаўнікоў *Партыі БНФ*: **Алена Сом** (Полацак), **Сьвятлана Магучая** (Віцебск).

Прадстаўнікі *Партыі левых "Справядлівы сьвет"* былі ўключаныя ў камісіі чатырох акругаў: *Віцебскай-Чыгуначнай выбарчай акругі* (**Андрэй Андрэеў**), *Віцебскай-Кастрычніцкай выбарчай акругі №20* (**Галіна Барэйка**), *Лепельскай выбарчай акругі №24* (**Фёдар Кірэйкаў**) і *Аршанскай-Дняпроўскай выбарчай акругі №27* (**Андрэй Баршчэўскі**).

### Утварэньне ўчастковых выбарчых камісіяў

Ад *Партыі БНФ* ва ўчастковыя камісіі Віцебску зьбіраліся трапіць 15 чалавек, адзін чалавек — у Гарадку. Ад *партыі левых "Справядлівы сьвет"* ва ўчастковыя камісіі мелі жаданьне трапіць 42 чалавекі. 10 прадстаўнікоў *АГП* зьбіраліся трапіць ва ўчастковыя камісіі Воршы і Аршанскага раёну.

У выніку ў Віцебску ніводнага апазыцыянэра ва ўчастковыя камісіі не ўключылі наогул. Ад *партыі левых "Справядлівы сьвет"* ва ўчастковыя камісіі трапілі: у Бешанковіцкім раёне — 1 чалавек, у Полацку — 1 чалавек (з 4 вылучаных), у Воршы 7 чалавек ( з 16 вылучаных) і ў Аршанскім раёне 6 чалавек (з 8 вылучаных).

### Рэгістрацыя ініцыятыўных груп

У Віцебскай вобласьці былі зарэгістраваныя ўсе ініцыятыўныя групы апазыцыйных актывістаў, апрача 14 ініцыятыўных груп за вылучэньне **Мікалая Статкевіча** (прыхільнікі палітвязьня спрабавалі зарэгістраваць ініцыятыўныя групы ў кожнай выбарчай акрузе



Збор подпісаў

Віцебшчыны).

### Збор подпісаў

Збор подпісаў у Віцебскай вобласьці адбываўся з выкарыстаньнем адміністрацыйнага рэсурсу. Быў зафіксаваны шэраг выпадкаў, у прыватнасьці, у Полацку, калі на працоўных месцах і ў інтэрнатах рабочых прымушалі падпісваць за вылучэньне старшыні гарсавету **Натальлі Гуйвік**; у Наваполацку - за вылучэньне старшыні гарадзкой арганізацыі *ГА "Белая Русь"* **Вадзіма Дзевятоўскага**, у Сянно - за вылучэньне тады яшчэ дзейнага дэпутата парлямэнту **Аляксандра Папкова**, у Лепелі — за тамтэйшага старшыню райвыканкаму **Пятра Шыкшняна**.

### Рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты

Толькі трое прэтэндэнтаў на крэсла ў Палаце прадстаўнікоў зарэгістравана ў Полацку.

Не было праблем з рэгістрацыяй ў старшыні *Полацкага гарадзкога Савету дэпутатаў* **Натальлі Гуйвік**, чые сабраныя подпісы былі падстрахаваныя вылучэньнем ад трох працоўных калектываў. Не знайшла акруговая камісія ніякіх парушэньняў і ў подпісах, сабраных групай **Аляксея Міхальчанкі**, вядучага АНТ. Прадстаўнік *«Справядлівага сьвету»* **Аляксей Філімонаў** зарэгістраваны па вылучэньні ад партыі, яго ініцыятыўная група не праводзіла збору подпісаў.

Падчас праверкі падпісных лістоў, пададзеных **Лідзіяй Сагідулінай** (*«Гавары праўду»*) і **Мікалаем Панкратам** (вядомы полацкі калекцыянэр), камісія выявіла недакладнасьці, якія дазволілі прызнаць шэраг подпісаў несапраўднымі. У **Мікалая Панкрата** зафіксаваная таксама недакладнасьць у падачы дэклярацыі аб даходах, якая перавышае ўсталяваную для гэтай выбарчай кампаніі адзнаку ў 20%.

У *Віцебскай-Чыгуначнай акрузе №19* зарэгістравалі ўсіх чатырох ахвотных стаць кандыдатамі ў дэпутаты парлямэнту. Гэта намесьнік начальніка Віцебскага аддзяленьня чыгункі **Сяргей Бохан** і тры партыйныя вылучэнцы: ад *Партыі левых "Справядлівы сьвет"* зарэгістравалі **Вадзіма Кузьміна**, ад *Партыі БНФ* - **Кастуся Смолікава** і ад *ЛДПБ* -**Дзьмітрыя Шчаглова**.

Па *Віцебскай-Горкаўскай выбарчай акрузе №17* таксама балятаваліся ўсе чацьвёра ахвотных, у тым ліку двое апазыцыйных актывістаў — **Алена Фаміна**, прыхільніца *"Народнай Грамады"* Мікалая Статкевіча, і **Аляксандар Кузьняцоў**, сябра *Партыі БНФ.*

Выбарчая камісія *Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акругі №18* зарэгістравала кандыдатам **Аляксея Гаўруцікава** з *"Народнай Грамады"* і актывіста *кампаніі "Гавары праўду"* **Аляксандра Мікуліна**. Адмоўлена ў рэгістрацыі прадстаўніцы *АГП* **Ірыне Яскевіч** — камісія знайшла недакладнасьці ў дэклярацыі аб прыбытках і маёмасьці.

Найбольш патэнцыйных кандыдатаў "адсеяла" выбарчая камісія *Віцебскай-Кастрычніцкай выбарчай акругі №20.* Тут зарэгістравалі толькі 4 прэтэндэнтаў з 7, у тым ліку трох партыйных вылучэнцаў: ад *партыі левых "Справядлівы сьвет"* - **Аляксандара Вінаградава**, **Аляксандра Дзядзінкіна** - ад *КПБ*, **Андрэя Рэзьнічэнку** - ад *АГП.* Не зарэгістравалі актывіста *кампаніі "Гавары праўду"* **Сяргея Парсюкевіча** і **Уладзімера Правальскага**, якія вылучаліся праз збор подпісаў, а таксама **Сяргея Рогалева**, вылучэнца ад *ЛДПБ* — у сувязі зь несапраўднымі дадзенымі ў дэклярацыі пра прыбыткі і маёмасьць.

Выбарчая камісія *Наваполацкай акругі №25* зарэгістравала кандыдатам у дэпутаты актывіста *кампаніі "Гавары праўду"* **Яраслава Берніковіча**. Аднаму зь ягоных "канкурэнтаў", колішняму дэпутату гарсавету **Аляксандру Сердзюку** ў рэгістрацыі было адмоўлена.

Старшыню *Гарадоцкай раённай суполкі Партыі БНФ* **Леаніда Аўтухова** зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты па *Віцебскай сельскай акрузе №21.*

Па выніках паседжаньня акруговай камісіі *Аршанскай гарадзкой акругі № 26* пасьведчаньні кандыдатаў атрымалі старшыня *Аршанскага гарадзкога Савету дэпутатаў* **Людміла Дабрыніна** (вылучаная ад працоўнага калектыву і праз збор подпісаў), актывіст *кампаніі "Гавары праўду"* **Канстанцін Анташкевіч** (вылучаны праз збор подпісаў), а таксама вылучэнцы *партыі "Справядлівы сьвет"* **Мікалай Петрушэнка** і *АГП* **Аляксей Ціханенка**. Камісія адмовіла ў рэгістрацыі **Аляксандру Клюеву**, вылучанаму ад *ЛДП.* У яго выявілі значныя неадпаведнасьці ў дэклярацыі аб даходах.

У *Лепельскай акрузе № 23* кандыдатамі ў дэпутаты сталі старшыня *Лепельскага райвыканкаму* **Пётар Шыкшнян** (вылучаны ад працоўных калектываў і зборам подпісаў), пэнсіянэр **Хрыстафор Жаляпаў** (вылучаны *Партыяй БНФ*) і прадпрымальнік **Мікіта Мядзьведзкі** (ад *ЛДПБ*). **Сяргей Мяфодзеў**, які падаў дакумэнты на рэгістрацыю, вылучэнец *Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасьці*, атрымаў адмову ў рэгістрацыі з-за парушэньняў дэклярацыі аб даходах. Ён не пазначыў аўтамабіль, які належыць яму, а таксама долі ў акцыянэрных таварыствах.

Бяз страт абыйшлося ў *Аршанскай Дняпроўскай акрузе № 27.* Кандыдатамі зарэгістраваныя старшыня *Аршанскага райвыканкаму* **Уладзімер Дзедушкін** (ад працоўных калектываў і зборам подпісаў), кіраўнік *Аршанскай гарадзкой арганізацыі партыі "Справядлівы сьвет"* **Мікалай Дзямідаў** (ад партыі),



Агітацыйны стэнд

прадстаўнікі *ЛДПБ* **Ларыса Разаева** і *Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасьці* **Натальля Лапіцкая**. У апошняй выявілі некаторыя адхіленьні ў дэкларацыі аб даходах, але падставай для адмовы ў рэгістрацыі гэта ня стала.

Ня здарылася адсеву і ў *Сеньненскай акрузе № 30.* Тут пасьведчаньні кандыдатаў у дэпутаты атрымалі дзеючы дэпутат **Аляксандар Папкоў** (ад працоўных калектываў і праз збор подпісаў) і вылучэнец *ЛДПБ* **Дзьмітры Езафатаў**.

### Спробы аспрэчыць адмовы ў рэгістрацыі

Дамагчыся рэгістрацыі ў якасьці кандыдата па *Шаркоўшчынскай выбарчай акрузе № 29* удалося толькі былому ўдзельніку прэзыдэнцкіх выбараў **Віктару Цярэшчанку**.

І тое, гэта здарылася пасьля таго, як іншыя кандыдаты ўжо распачалі сваю агітацыйную кампанію. **Віктар Цярэшчанка** меў абмежаваны час для правядзеньня агітацыі.

Ні ЦВК, ні суд не задаволілі скаргаў такіх віцебскіх апазыцыйных актывістаў, як прадстаўніца *кампаніі "Гавары праўду"* **Лідзія Сагідуліна**, якой адмовіла ў рэгістрацыі камісія *Полацкай выбарчай акругі №28*, і **Сяргей Парсюкевіч**, які меў намер балятавацца па *Віцебскай Кастрычніцкай акрузе №20.* Было адмоўлена і яшчэ аднаму былому ўдзельніку мінулай прэзыдэнцкай кампаніі — **Уладзімеру Правальскаму**.

### Агітацыя



Агітацыя за байкот

Агітацыйная кампанія ў Віцебску праходзіла ня дужа актыўна. Толькі два дэмакратычныя кандыдаты — **Алена Фаміна** і **Аляксей Гаўруцікаў** — правялі ў горадзе пікеты і сустрэчы з выбаршчыкамі. Абодва адзначаюць непрыдатнасьць вызначаных раённымі адміністрацыямі месцаў для зносінаў з насельніцтвам, асабліва што тычыцца так званых дваровых агітпляцовак.

У Воршы агітавалі больш актыўна: пікеты ладзілі сябар *партыі "Справядлівы сьвет"* **Мікалай Петрушэнка** і актывіст *кампаніі "Гавары праўду"* **Канстанцін Анташкевіч**, ён таксама праводзіў і сустрэчы з выбаршчыкамі. Сябар *партыі "Справядлівы сьвет"* **Мікалай Дзямідаў** таксама праводзіў сустрэчы з выбаршчыкамі, прычым менавіта выбаршчыкі былі ініцыятарамі сустрэч — запрашалі кандыдата абмеркаваць праблемныя пытаньні.

Пасьля таго, як у Наваполацку актывіст *кампаніі "Гавары праўду"* **Яраслаў Берніковіч** правёў агітацыйны пікет, заадно прыцягнуўшы ўвагу гараджан да праблем палітвязьняў, да яго прыйшлі міліцыянты з патрабаваньнем даць тлумачэньні. Актывіст адмовіўся ісьці ў міліцыю без афіцыйнай позвы.


Тэлевыступ кандыдата Л. Аўтухова

Тэле- і радыёвыступы кандыдатаў трансьляваліся мясцовай *тэлерадыёкампаніяй "Віцебск".* Дырэктар **А. Камовіч** пагражаў зьняць з этэру тэлевыступ кандыдата **Аляксея Гаўруцікава**, які некалькі разоў дэманстраваў партрэт палітвязьня **Мікалая Статкевіча**. Але далей пагрозаў справа не пайшла.

Быў зьняты з этэру тэлевыступ кандыдата ад *АГП* **Андрэя Рэзьнічэнкі** — за агучаную назву партыйнай *кампаніі "За справядлівыя выбары без Лукашэнкі".* З тае самае прычыны ў газэце *"Віцьбічы"* адмовіліся ў першапачатковым выглядзе ўзяць у друк ягоную праграму. Праграма выйшла ў газэце толькі пасьля "цэнзураваньня".

Тэле- і радыёдэбаты адбыліся з удзелам прадстаўнікоў 8-мі выбарчых акругаў вобласьці. Пасьля адпаведнага распараджэньня ЦВК быў зьняты з этэру запіс тэледэбатаў з удзелам старшыні *Партыі БНФ* **Аляксея Янукевіча**, які быў даверанай асобай кандыдата **Аляксандра Кузьняцова**. Праграма была запісаная на дзень раней да таго, як выйшла распараджэньне ЦВК наконт таго, што ў дэбатах ня могуць браць удзел даверакыя асобы, якія самі зьяўляюцца кандыдатамі.

Кандыдат па *Наваполацкай выбарчай акрузе №25* **Вадзім Дзевятоўскі** без папярэджаньня не зьявіўся на радыёдыбаты, чым сарваў запіс праграмы з удзелам свайго суперніка, актывіста *кампаніі "Гавары праўду"* **Яраслава Берніковіча**.

Віцебская друкарня на тры дні пратэрмінавала выданьне агітацыйных улётак **Аляксея Гаўруцікава** і **Алены Фаміной**, тады як агітацыйныя ўлёткі ў падтрымку некаторых праўладных кандыдатаў зьявіліся яшчэ ў першыя дні агітацыйнай кампаніі.

8 верасьня, у час агітацыйнай кампаніі, невядомыя падпалілі машыну аршанскага кандыдата ад *АГП* **А.Ціханенкава**. Ідзе міліцэйскае разьбіральніцтва.

Тым часам дзяржаўныя СМІ, ня згадваючы прозьвішчаў кандыдатаў — апазыцыйных актывістаў, друкавалі агітацыйныя артыкулы пра праўладных кандыдатаў **Аляксандра Папкова** (*"Голас Сеньненшчыны"*), **Вадзіма Дзевятоўскага** (*"Новая газета"*), **Уладзімера Андрэйчанку** (*"Родныя вытокі"*) і інш.

### Агітацыя за байкот выбараў

Пасьля зьяўленьня на незалежным сайце *westki.info* артыкулу пра магчымасьць арганізаваць байкот выбараў у *Докшыцкай выбарчай акрузе* ў *пракуратуру г. Глыбокае* былі выкліканы на прафілактычную гутарку журналіст **Кастусь Шыталь** і аўтар ідэі кандыдат у дэпутаты **Яраслаў Берніковіч**.

Падчас агітацыйнай кампаніі ў Віцебску прайшоў шэраг акцыяў за байкот выбараў. За выхад у цэнтар гораду з плякатам "Нелегітымным выбарам у нелегітымную палатку — байкот" быў аштрафаваны апазыцыянэр **Барыс Хамайда**.

Актывіст *БХД* **Яўген Гуцалаў** быў аштрафаваны за распаўсюд улётак з заклікам да бай-

коту, а пазьней асуджаны на 7 сутак за акцыю, таксама прысьвечаную байкоту парлямэнцкіх выбараў.



У дзень выбараў перад выбарчым участкам

Сябры *КХП БНФ* падалі каля двух дзясяткаў заявак на пікеты, каб выказаць перад землякамі сваю пазыцыю пра байкот выбараў, але ніводнай заяўкі на было задаволена. Актывіст **Пётра Сарапеня** спрабаваў судзіцца з раённай адміністрацыяй за права правесьці такі пікет, але суд адмовіў яму ў задавальненьні скаргі.

## Датэрміновае галасаваньне

Падчас датэрміновага галасаваньня ў Віцебску, Воршы, Полацку і Наваполацку былі зафіксаваныя выпадкі прымусовага галасаваньня, у прыватнасьці, на ўчастках, дзе галасавалі студэнты. У выніку, яшчэ да 23 верасьня ў Віцебску было некалькі ўчасткаў, дзе выбары фактычна адбыліся — там прагаласавала больш за 50% выбаршчыкаў, прыпісаных да ўчасткаў.

На этапе датэрміновага галасаваньня высьветлілася, што ўчастковая камісія ў *Віцебскай-Кастрычніцкай выбарчай акрузе* залічыла ў сьпісы выбаршчыкаў жыхароў двух дамоў, зьнесеных паўтара гады таму. Затое ў *Віцебскай-Чкалаўскай акрузе*, наадварот, — не ўлічыла два дзевяціпавярховыя дамы, пабудаваныя і заселеныя больш як год таму. Абедзьве памылкі былі выпраўленыя пасьля скаргаў у ЦВК кандыдата **Аляксея Гаўруцікава** і праваабаронцы **Паўла Левінава**.

Многія ўчастковыя камісіі аказаліся не гатовыя дзейнічаць у сытуацыі, калі кандыдаты добраахвотна здымаюцца з выбараў. Так, на некаторых участках у Воршы ўвесь першы дзень датэрміновага галасаваньня раздаваліся бюлетэні зь невыкрэсьленым прозьвішчам кандыдата ад *АГП* **А. Ціхаценкава**.

## Дзень выбараў

У дзень выбараў назіральнікі і праваабаронцы Віцебшчыны фіксавалі нізкую яўку выбаршчыкаў. Да 18 гадзін яўка выбаршчыкаў не перавышала 35-40% на большасьці выбарчых участкаў. На асобных участках кіраўнікі выбарчых камісіяў не давалі назіральнікам зьвестак аб колькасьці прагаласаваўшых, агульнай колькасьці выбаршчыкаў на ўчастку і г.д.

Пасьля складаньня скаргаў назіральнікам выносілі папярэджаньні і выдалялі іх з участкаў для галасаваньня. У іх лік трапілі актывіст *руху "За Свабоду "* **Леанід Гаравы** з Гарадка (быў выдалены яшчэ на этапе датэрміновага галасаваньня), сябар *КХП БНФ* **Ян Дзяржаўцаў** зь Віцебску (выдалены ў апошні дзень датэрміновага галасаваньня і не зарэгістраваны паўторна ў дзень выбараў), папярэджаньне было абвешчанае жыхару Віцебску **Вадзіму Кузьміну** (пасьля фіксаваньня прымусовай яўкі студэнтаў яму нават прыгразілі, што "адна з гэтых дзяўчат можа напісаць заяву пра згвалтаваньне").

Назіральніка пры *Віцебскай Кастрычніцкай акруговай камісіі* **Анатоля Родзіка** не дапусьцілі на працэс перадачы пратаколаў участковых камісіяў у акруговую. Калі ён пачаў пратэставаць, старшыня камісіі **Мікалай Канявалаў** ў сьпіну выштурхаў актывіста з пакою. Калі пра гэты выпадак напісалі незалежныя мэдыі, спадар **Канявалаў** стаў пагражаць **Анатолю Родзіку** зваротам у суд нібыта за паклёп.

На тых участках, дзе былі назіральнікі, яўка зафіксаваная не такая высокая, як на іншых. Аднак у агульным пляне Віцебшчына выйшла на 1-е месца па Беларусі — тут, паводле афіцыйнай інфармацыі, працэнт яўкі быў самы высокі — 80,7%.

## Высновы

*У парлямэнт ня трапіў ня толькі ніводзін кандыдат-апазыцыянэр зь Віцебшчыны — ад гэтай вобласьці ўсе 14 прадстаўнікоў аказаліся ўвогуле беспартыйнымі. "Прайшлі" у парлямэнт усе тыя асобы, прозьвішчы якіх пастянна паўтараліся ў дзяржаўным друку.*

*На думку мясцовых назіральнікаў-апазыцыйных актывістаў, а таксама праваабаронцаў, сёлетнюю парлямэнцкую кампанію нельга назваць справядлівай, а самі выбары не былі празрыстыя. Пра гэта сьведчаць выпадкі незаконнай датэрміновай агітацыі, неўключэньне актывістаў у выбарчыя камісіі рознага ўзроўню, выкарыстаньне адміністрацыйнага рэсурсу і ціск на назіральнікаў.*

*Доказам таго, што на выбарах маглі дапускацца фальсыфікацыі, можна лічыць якасна розны ўзровень яўкі на выбарчыя ўчасткі Віцебскай вобласьці: самы нізкі — 62% - зафіксаваны ў Полацкай гарадзкой акрузе, самы высокі — 88,3% - у Сеньненскай выбарчай акрузе.*



Сябры ўчастковай камісіі ладзяць галасаваньне на даму

*Пасьля выбараў праваабаронцы і актывісты даслалі ў ЦВК некалькі заяваў пра парушэньні з просьбай прызнаць выбары несапраўднымі на асобных участках у Віцебску, Воршы, Гарадку. Іхная аргумэнтацыя была пакінутая без увагі, а просьбы не былі задаволеныя.*

Бюлетэнь “За правы чалавека” выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы кампаніі “Праваабаронцы за свабодныя выбары”